# Сядзіба

**Выпуск № 341** *Рубрыку вядзе Мікалай ЧАХОЎСКІ*

## Брашуры для агароднікаў

**Межы продажу выпускаў брашурак для сялян і дачнікаў пашырыліся. Акрамя Мінска, дзе продаж наладжаны ў магазінах «Сельгасхімія» (Чырвоназорная, 8) і «Сельгаскніга» (праспект Скарыны), наша выданне ёсць у магазіне «Сельгасхімія» Гомеля, раённых паштовых аддзяленнях Слуцка, Барысава, Оршы, Полацка, Лепеля, Наваполацка, Глыбокага, Шаркоўшчыны, Смалявічаў. Пытайце ў паштальёнаў, завітайце ў аддзяленні сувязі. Кошт аднаго экземпляра самы танны — 3000 рублёў.**

Можна заказаць выданні ў рэдакцыі. Але іх цана ўзрастае на столькі, колькі каштуе перасылка — 4000 рублёў адзін экземпляр, 3500 руб. — два і больш экземпляраў. У нас ёсць наступныя брашуры: № 15 (угнаенні, нітраты, насенняводства); № 16 (усё пра сяўбу і расаду); № 17 (як атрымаць тону памідораў і 500 кг бульбы з соткі, а яшчэ высокія ўраджаі перцаў, баклажанаў, фізалісу, патысону); № 18 (агарод па-замежнаму ЗША, Англія, Чэхія); № 19 (усё пра сад — пасадкі, угнаенні, абрэзка, прышчэпкі і г. д.); № 20 (шкоднікі і хваробы саду і агарода); № 21 (кветкі ля дома, здабыткі ўмельцаў).

З любога паштовага аддзялення ці з разліковага рахунку газеты «Звязда» вышлеце перавод з указаннем нумароў брашурак. Разліковы рахунак газеты: 3012210270016 код 739 у АКБ «Белбізнесбанк» г. Мінск. Адрас: 220013 г. Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10А, «Звязда». Разборліва ўкажыце зваротны адрас з індэксам, прозвішча, імя і імя па бацьку. Як толькі прыйдзе перавод, адрасу ж высылаецца бандэроль.

## Якія запасы?

**Звычайна ў студзені самыя розныя крамы прадаюць насенне новага ўраджаю. Гэта сартавы матэрыял, які атрымаў «дабро» па ўсіх параметрах праверак і аналізаў. Яго можна смела сеяць на сваіх прысядзібных участках.**

А як быць з запасамі? Яны ж ёсць у кожнай сям'і. Калі насенне праляжала год, то ніякіх недарэчнасцей не павінна быць. Большасць культур захоўвае сваю ўсходжасць два і больш гадоў. Толькі самыя маленькія зярняткі (тытуню, напрыклад, ці маку) могуць сапсавацца.

Таму кожнаму агародніку неабходна праверыць прыпасы. Паўтараем: толькі тыя, што праляжалі больш як два гады. Адбіраем па дзесяць асобін кожнай культуры, замочваем, пасля кладзём у анучцы на цёплым месцы (тэмпература да 20—25 градусаў). Увесь час сочым, каб анучкі былі вільготнымі, а насенне не падсыхала. Праз чатыры—шэсць дзён (можа і крыху пазней) асобіны дадуць карэньчыкі. Падлічым іх. Гэта і будзе прымітыўны працэнт усходжасці. Калі ён больш за 50 працэнтаў (наклюнулася больш за палову зярнятак), лічым, што прыпасы варта выкарыстаць, меншы паказчык — думаем пра набыццё новых.

## Такі неабходны фосфар

**У брашурах, якія выдала газета «Звязда», сцвярджаецца, што нормы ўнясення суперфасфату вельмі шырокія — ад 2,5 да 9 кг на адну сотку. Дозы арганікі — ад 300 да 600 кілаграмаў.**

Вядома, такія паказчыкі сярэднія. Яны найбольш залежаць ад ступені акультуранасці глебы. Гэта значыць сістэматычнага ўнясення ўгнаенняў. Калі арганіка і мінералка ўносіліся штогод і поле, як кажуць у вёсках, тлустае, — нормы мінімальныя. Новыя ж участкі неабходна запраўляць поўнай мерай. Аддача будзе ў тым жа сезоне, але найбольшая — праз год.

Суперфасфат лічыцца асновай ураджаю. Без яго і плод не плод, і зерне не зерне — дробныя, худзенькія. Мала зярнятак у коласе ці ў стручках. Дрэнная каранёвая сістэма, бо менавіта дастатковая доза фосфарных садзейнічае развіццю магутнай сеткі каранёў. Апошнія, бы магутныя помпы, падаюць вільгаць з элементамі сілкавання ў саму расліну. У дарослым стане расліны, забяспечаныя фосфарам, раней уступаюць у пладанашэнне, аддача ад іх роўная і вельмі стабільная.

Вось па гэтай прычыне і раім нашым чытачам уносіць элементы фосфарнай групы (гной, кампост, попел, просты і двайны суперфасфат, амафос, нітраамафоска і інш.) у поўнай меры. Вядома, забеспячэнне азотам і каліем таксама добрае. Бо толькі дапаўняючы адзін аднаго гэта тройца можа тварыць цуды.

Заўважым яшчэ, што суперфасфат, які ўтрымліваецца ў туках, можа пераходзіць у непажаданую, так званую звязаную, форму. Гэта калі глеба не правапнавана. Правіла тут такое: кіслотнасць нейтральная — і фосфар утварае так званыя фасфаты кальцыю, якія раствараюцца нават слабымі кіслотамі і даступныя для раслін. У кіслым асяроддзі (ph 5,5 і ніжэй) наш «прадукт» вельмі хутка пераходзіць у так званы двухзаменны фасфат. Гэта вядзе да таго, што фасфаты захоўваюцца ў глебе працяглы час і амаль недаступныя для раслін. Такая з'ява — ганьба для агародніка і садавода. Усё ўнесенае ў глебу павінна даваць аддачу.

Часцей за ўсё ў продажы бываюць просты і двайны суперфасфат. Яны ў гранулах. Але бываюць і ў парашкападобнай форме. Раствараюцца ў вадзе добра, утвараючы асадак. Гэта так званыя спадарожныя элементы. Сярод іх неабходная раслінам сера. Працэнтны састаў чыстага рэчыва — у межах адпаведна 20 і 46 працэнтаў. Гэта нізкі паказчык. Амафос неяк выдзяляецца на гэтым фоне. У ім амаль палова і нават больш чыстага фосфару. Розныя іншыя складаныя злучэнні (агародная сумесь, нітрафоскі) утрымліваюць ад 9 да 16 працэнтаў фосфару. Іх уносіць лепш, бо тры асноўныя элементы: азот, фосфар і калій збалансаваны.

Цяпер звернемся да арганікі. У кнізе для механізатара былога СССР даецца такая раскладка. Больш фосфару ў конскім гноі (0,28 працэнта ад агульнай масы), буйной рагатай жывёлы і авечак (0,25), свіней (0,23). Але чэмпіёны тут — птушыны памёт — ад 1,5 да 2 працэнтаў! Фекальная сумесь туалетаў — 0,26 працэнта. Усю арганіку лепш закладваць у кампосты з травянымі адходамі, пілавіннем, торфам і г.д. Пад уздзеяннем мікраарганізмаў і павышанай тэмпературы маса фосфару расце як на дражджах — да 0,4 працэнта. І што самае каштоўнае — усе элементы сілкавання знаходзяцца ў вельмі даступнай форме. Расліны гэта любяць і адзячаць двайнымі ўраджаямі.

## Ніколі не позна

**Яблыні і грушы рыхтуюцца «заснуць» на ўсю доўгую зіму. Вядома, іх можна не чапаць, пакінуць у тым стане, у якім засталі іх халады. Але да паловы снежня ў нас даволі часта бываюць пацяпленні. Ды і прагноз прадказвае плюсавое надвор'е на першы месяц зімы. Тэмпература будзе павышацца да 2—5 градусаў цяпла. Гэта абавязкова трэба выкарыстаць.**

Спецыяльнай драцянай шчоткай ды вострым нажом здыміце адмерлую кару. Папярэдне, вядома, пасцяліце вакол ствала плёнку ці моцную паперу. У розных схованках на ствале знайшлі прытулак шкоднікі ці іх кладкі. Знятую кару разам з «ворагамі» і зялёнай цвіллю спаліць. А ствалы, якія памаладзелі ад нашай работы, пабяліць. Лепш выкарыстаць вапну, якая пагашана. На 20-літровую пасудзіну трэба 2 кг вапны, да 20 г меднага купарвасу і па кілаграму каравяку і гліны.

Такая пабелка будзе засцерагаць ствол ад уздзеяння сонечных промняў зімою і вясною, адпужваць мышэй. Дастанецца і шкоднікам, якіх не змаглі зняць са ствала драцянкай і нажом. Самі дрэвы будуць бы нявесты — белыя, маўклівыя, прыгожыя. Вядома, работы весці ў сухое надвор'е. Не перашкода і слабы мароз ці нулявая тэмпература. Важна, каб сам раствор быў крыху цёплы.

## Перапіска з чытачамі

***Валерыю ВАШКЕВІЧУ, г. Мінск***

**Самая шматлікая і самая шкодная група круглых чарвякоў — нематоды. У асноўным яны жывуць у глебе.**

Самі па сабе гэтыя круглыя паразіты не вельмі шкодныя. «Акупантамі» трэба лічыць іх лічынкі. Ранняй вясной яны (лічынкі) залазяць у карані бульбы і п'юць пажыўныя рэчывы. Хады не зарастаюць, забеспячэнне сцябла і лісця элементамі сілкавання ніякаватае. Лісточкі драбнеюць, нікнуць долу. Сцябліна становіцца бы дрэва. Такія хворыя расліны з каранямі і зямлёю лепш выкапаць і спаліць.

Добрая агратэхніка — найлепшая гарантыя ў барацьбе з небяспечным шкоднікам. Дапамагаюць севазвароты, ранняя сяўба, вапнаванне глебы. Ёсць даволі ўстойлівыя да нематодаў сарты. Ранні сорт бульбы «прыгожы-2», напрыклад. Некаму ўдавалася знішчыць нематоды кіпнем. Але работа гэта вельмі складаная.

Карысна сеяць раяніраваныя сарты раслін.

Нематоды вельмі жывучыя. У сваіх цыстах могуць захоўвацца і дзесяць гадоў, чакаючы зручнага моманту. І вось пасадзілі бульбу. Карані, асвойваючы прастору глебы ля клубняў, выдзяляюць спецыфічны пах. Гэты пах зыходзіць і ад самой бульбіны. Сістэма разведкі цысты ловіць гэтыя пахі. Спрацоўвае механізм выпуску шкоднікаў. Армія ідзе ў наступ. Не ўсе дасягнуць каранёў, многія загінуць. Але тыя, што ўчэпяцца, знішчаць у іх усё жывое. Страты бываюць большымі, чым ад каларадскіх жукоў.

Асаблівасць цысты раскрывацца на пах выкарысталі даследчыкі. На полі, дзе неўзабаве будзе расці бульба, закопвалі бульбяныя лупіны, маладыя карэньчыкі, нават сапсаваныя клубні. Цыста хутка «вылічвала» здабычу, выпускала сваіх шкоднікаў. Але чалавек забіраў прынаду назад. Нематоды-чарвякі дасягалі патрэбнага месца, але харчу не знаходзілі і гінулі.

36,6°

## ДЫЯБЕТ І ПРАДУКТЫ ХАРЧАВАННЯ

| | Рэкамендуемыя прадукты | Прадукты, якія трэба ўжываць умерана | Ежа, не рэкамендуемая для ўжывання |
|---|---|---|---|
| Мучное | Хлеб з вотруб'ем, макаронныя вырабы, сухары, аўсяная каша, рыс | | Булачкі са слаёнага цеста |
| Агародніна салаты, садавіна | Уся свежая і замарожаная агародніна, часткова бабовыя: фасоля, сачавіца, малады гарох, салодкая кукуруза. Адварная бульба, бульба «ў мундзірах», уся свежая і сушаная садавіна, кансерваваная садавіна без цукру | Смажаная бульба, бульбяныя чыпсы, прыгатаваныя на алеі | Смажаная бульба, агародніна або рыс, прыгатаваныя на тлушчы, хрумсткая бульба, чыпсы, салёная кансерваваная агародніна |
| Прыправы | Перац, травы, гарчыца, спецыі | Салатныя прыправы з нізкім утрыманнем тлушчу | Вяршкі, маянэз, дадатковае падсольванне ежы |
| Супы | Рыбны, агароднінны | | Тлусты суп, суп са смятанай |
| Малочныя прадукты | Абястлушчанае малако, ёгурт з вельмі нізкім утрыманнем цукру, сыры з нізкім утрыманнем тлушчу (да 17 прац.), нятлусты тварог, брынза | Паўтлустае малако, ёгурт з нізкім утрыманнем тлушчу, два яйкі на тыдзень, сыры з нізкім утрыманнем тлушчу (да 30 прац.) | Цэльнае малако, тлустыя сыры, згушчанае малако, тлусты ёгурт, вяршкі |
| Рыба | Любыя сарты белай і тлустай рыбы (адварaная, смажаная, вэнджаная) без скуры | Рыба, смажаная на алеі | Ікра, вугор, рыба, прыгатаваная на тлушчы |
| Дары мора | Мідыі, вустрыцы, амары | Крыветкі, кальмары | |
| Мяса | Індычка, курыца (без скуры), цяляціна, дзічына | Посная ялавічына, вяндліна, цялячая або курыная каўбаса, печань 2 разы на месяц | Качка, гусь, пірагі з мясам, салямі, паштэт, бекон, каўбасы, сасіскі, тлустае мяса, скурка хатняй птушкі |
| Тлушчы | | Ненасычаны алей: аліўкавы, кукурузны, сланечнікавы; маргарыны на аснове гэтага алею, асабліва масла паніжанай тлустасці | Масла, свіное сала, тлушч, здор |
| Дэсерты | Фруктовы салат | Жэле, прыгатаванае на нятлустым малаку, безэ | Марожанае, соусы, прыгатаваныя з масла, пудынг |
| Выпечка | | Кандытарскія вырабы, бісквіты, прыгатаваныя на ненасычаных маргарынах і маслах | Пірожныя, пірагі, прысмакі, бісквіты |
| Прысмакі | | Марцыпан, усходнія прысмакі, халва, нуга, карамель | Шакалад, ірыс, памадка, батончыкі з какосавым арэхам |
| Арэхі | | Грэцкія, фундук, арахіс, міндаль, каштан, фісташкі | Какос, салёныя арэхі |
| Напоі | Чай, растваральны або адфільтраваная кава, мінеральная вада, нізкакаларыйныя прахаладжальныя напоі | Алкаголь, нізкакаларыйныя шакаладныя напоі | Шакаладныя напоі, гатаваная кава, кава па-ірландску |

«АиФ-Здоровье».

**ФОТАФАКТ**

Якімі толькі прафесіямі не валодаюць нашы жанчыны — і вадзіцелі, і міліцыянеры, і касманаўты... А вось у Наталлі Міхайлаўны Булелік прафесія незвычайная. Яна і педагог, і псіхіятр, і дрэсіроўшчыца, і філосаф, і... — яна кінолаг Магілёўскага абласнога савета БТПР. Прычым адзіная жанчына ў рэспубліцы, якая мае званне эксперта нацыянальнай катэгорыі па ўсіх пародах сабак. І званне сваё яна апраўдвае. За рэкамендацыяй і парадай да яе едуць не толькі з іншых абласцей Беларусі, але і з Аўстрыі, Польшчы, Расіі і з краін Балтыі.

**Уладзімір ФЯДОТАЎ.**

**На здымку:** Наталля БУЛЕЛІК са сваёй любіміцай Басяй.

## ВІНШАВАННІ

*Віншуем дарагую матулю і жонку Ірыну Аляксандраўну ЛАЗУК з днём нараджэння. Жадаем поспехаў ва ўсіх справах, моцнага здароўя, весялосці і доўгіх шчаслівых гадоў жыцця.*

**Муж і дочкі Марына і Тоня.**

*Сардэчна віншуем маці, цешчу, бабулю і прабабулю Ганну Ільінічну АНІСЕНКА (г. Мазыр) з 83 угодкамі з дня нараджэння. Здароўя і доўгіх гадоў радаснага жыцця ўсе мы жадаем.*

**Дачка Тамара, зяць Арсень, унучкі Наташа, Валя, Алена, унук Ігар і праўнук Жэнька.**

*Віншуем дарагога мужа і татачку Аляксандра Фёдаравіча КАЎША з днём нараджэння!*
*«Пусть спутником тебе всегда будет удача,*
*Судьба пусть создает тебе уют,*
*Пусть жизнь твоя становится богаче,*
*И все печали в прошлое уйдут».*

**Твае Галіна, Аліна і Волечка.**

## ТЭЛЕБАЧАННЕ, 4 снежня

**Беларускае тэлебачанне**

**9.00** Тэлебачанне — школе. Беларуская літаратура. 8-ы клас. В. Дунін-Марцінкевіч. «Ідылія».
**9.30** «Раскажыце казку, доктар». Мультфільмы.
**10.10** «Трапічная спёка».
**11.10** Тэлевізійны АРТ-клуб. Тэлебенефіс Алены Казанцавай.
**11.50—12.50** Відзьма-нявідзьма.
**15.00** Навіны.
**15.10** «Тры бананы». Мультфільм.
**15.25** Студыя «Акно». «Тэлек-шоу».
**15.40** «Памежжа». Перадача з Гродна.
**16.00** «Усе мы родам з дзяцінства». Урачыстае адкрыццё III Рэспубліканскага тэлефестывалю юных талентаў.
**17.30** Крэда. Дзяржаўныя і недзяржаўныя прадпрыемствы ў эканоміцы Беларусі.
**17.50** Шматгалоссе. Гісторыя, культура, быт народаў Беларусі.
**18.20** Музычны антракт.
**18.35** Эканамікст.
**18.50** Навіны (з сурдаперакладам).
**19.00** «Музычная абойма». Беларускі хіт-парад.
**19.05** Супергол.
**19.35** «Трапічная спёка».
**20.35** «Хто гэта?» Тэлегульня.
**20.40** Калыханка.
**21.00** Панарама.
**21.55** Аўта-парк.
**22.15** «Кузіна Анхеліка». Маст. фільм (Іспанія).
**0.05** Навіны.
**0.20** Каралеўскае паляванне.

**ГРТ**

**11.00** Навіны (з сурдаперакладам).
**11.10** Кантакт — дзелавое супрацоўніцтва краін Садружнасці».
**11.55** «Гардэмарыны, наперад!» 2-я серыя.
**13.10** «Давай дружыць». Мультфільм.
**13.15** «Брэйн рынг».
**14.00** Навіны (з сурдаперакладам).
**14.20** «Касмічныя выратавальнікі лейтэнанта «Марша».
**14.45** Кактус і К.
**14.55** До-мі-соль.
**15.10** Покліч джунгляў.
**15.40** «Карын і яе сабака».
**16.05** «Тэт-а-тэт».
**16.30** «Вакол свету». Па старонках перадачы «Клуб падарожнікаў».
**17.00** Навіны.
**17.20** «Новая ахвяра».
**18.10** Гадзіна пік.
**18.35** «Угадай мелодыю».
**19.00** «Тэма».
**19.45** «Спакойнай ночы, малышы!»
**20.00** Час.
**20.40** Прагрaма перадач.
**20.45** Смехапанарама. Вядучы — Я. Петрасян.
**21.20** Футбол. Ліга чэмпіёнаў. «Грасхопер» (Швейцарыя) — «Аякс» (Галандыя). Трансляцыя са Швейцарыі.
**23.20** Навіны.
**23.30** Футбол. Ліга чэмпіёнаў. Агляд 7 матчаў.
**0.50** Прэс-экспрэс.
**1.10** Праграма перадач.

**«Расія»**

**10.00, 16.00, 19.00, 23.00** Весткі.
**9.50, 23.25** Тавары — поштай.
**8.55** «Санта-Барбара». Маст. фільм.
**10.20—11.30** «Авадзень». Маст. фільм 1-я серыя.
**16.20** Блак-нот.

**16.35** «Чэленджэрс». Серыял для падлеткаў.
**17.05** Тэлечасопіс «Здароўе».
**17.15** Астралогія кахання. Ане Вескі.
**17.45** Ваша права.
**18.10** Клуб губернатараў.
**18.40** Асабліва важныя персоны.
**19.30** «Санта-Барбара».
**20.35** Эміль Брагінскі ў праграме «Аншлаг».
**21.05** Надвор'е.
**21.15** Баскетбол. ЦСКА—«Стэфаноль» (Італія).
**23.35** Музыка ўсіх пакаленняў.
**23.50** Хто на што здатны.
**0.05--0.30** «Другое дыханне».

**Санкт-Пецярбург**

**11.55, 13.55, 15.55, 18.55, 21.55** Інфарм ТБ.
**12.10** «Гісторыя кахання». Серыял.
**13.00** Тэрмін адказу — сёння.
**13.25** Парады садаводам.
**13.45** «Мышкі-малышкі». Мультфільм.
**14.10** «Забойны аддзел». Серыял.
**15.00** «Цікаўнае сланяня». Мультфільм (Венгрыя).
**15.10, 20.45** Тэлеслужба бяспекі.
**15.25** «Асабістая справа». С. Бяляеў.
**16.05**. Г. Берліёз. «Рамео і Юлія». Сімфанічная паэма.
**16.50** Тэатральная правінцыя?..
**17.15** «Галандыя будуе «Батавію». Дак. фільм.
**17.35** Паказвае Ленінградская абласная тэлекампанія.
**18.40** Вялікі фестываль.
**19.15** Спорт.
**19.20** «Гісторыя кахання». Серыял.
**20.10** Барбара Хендрыкс у Санкт-Пецярбургу.
**21.00** «Забойны аддзел». Серыял.
**22.05** Спартыўны агляд.
**22.15** Падзея.
**22.30** «Дварцовыя тайны». 6-я серыя.
**22.55—23.50** Адкрыты Кубак Еўропы па таэквандо. Кубак Пятра Вялікага.

**НТБ**

**9.00** Маст. фільм «Сакрэты жанатага мужчыны» (ЗША).
**10.30** Праграма для дзяцей. «Вуліца Сезам».
**11.00, 13.00, 15.00** Сёння ўдзень.
**12.00** Расійскія універсітэты
**13.15** Вялікая «Часінка».
**15.30** Дыстанцыя 60.
**16.30** «Блакітнае дрэва». Маст. фільм (Італія—Аргенціна).
**17.30** Праграма для дзяцей. «Вуліца Сезам».
**18.00, 21.00** Сёння ўвечары.
**18.35** Герой дня.
**19.00** Свет кіно. Маст. фільм «Узброены Рым» (Італія).
**20.40** Рускі альбом. Група «Свінцовы туман».
**21.35** Гадзіна серыяла. «За мяжой магчымага» (ЗША).
**22.30** Часінка.
**23.00** Сёння апоўначы.
**23.20** Кафэ «Абломаў».

**8-ы канал**

**18.00** Мультфільм «Палёт драконаў».
**18.30** Маст. фільм «Прынцэса мафіі».
**20.00** Свет меркаванняў ці меркаванне пра свет.
**20.15** Маст. фільм «Залатое цяля». 1-я серыя.
**21.45** Паліскоп.
**22.00** Маст. фільм «Бурная рака».
**23.55** Без каментарыя.

## РАДЫЁ, 4 снежня

Апошнія паведамленні: **9.00, 10.00, 12.00, 13.00, 15.00, 19.00, 22.00, 23.50.**

**9.00** — «Сёння ў газетах». **9.15** — «Па родным краі». На сувязі — Брэст. **9.30** — «Я зямлю Купалы люблю». Нататкі пісьменніка П. Гарэцкага. **10.05** — «Маладзёжнае радыё прапануе...» **10.35** — «Для тых, хто дома». **11.35** — працяг інфармацыйна-аналітычнай праграмы «Прамень». **13.10** — «У абедзенны перапынак». **14.00** — «Марым, слухаем, усміхаемся». **15.10** — музычны канал. Сустрэчы, інтэрв'ю, успаміны. **16.05—18.00** — Радыё «Карусель» — дзецям і падлеткам». **16.05** — «Прэзумпцыя». Маральна-прававая праграма па праблемах дзяцей і падлеткаў. **16.45** — «Партрэт у музычным інтэр'еры». Знаёмім з юнымі музыкантамі. **17.15** — для малышоў. А. Дудараў. «Пушысцік». Інсцэніраваная казка. **17.00** — «Зялёная хваля. Азбука юнага пешахода». **18.00—18.40** — перадачы абласных тэлерадыёаб'яднанняў. **18.00—19.00** — «Поступ часу». Вячэрняя праграма радыёстанцыі «Сталіца». **19.00** — «Пост-фактум-радыё». **19.50** — вячэрняя казка. **20.00** — «Нам добра з вамі». **22.10** — «Маладзёжнае радыё прапануе...» **0.02—1.00** — начны канал. Канцэрт арганіста Г. Каўзера (Германія) у канцэртнай зале Сафійскага сабора Полацка.



**КРЫМІНАЛ**

# «ЗРОБІМ З ЦЯБЕ ШАШЛЫК»

Мінчанін Дзмітрый Лявонцьеў, як і многія яго аднагодкі, хацеў мець шмат грошай. У яго былі прыяцелі сярод камерсантаў. І вось праз свайго знаёмага Аляксандра Кавалеўскага, дырэктара ТАА «Брыянт», ён пазнаёміўся з Канстанцінам Бушуевым, які працаваў у ТАА «Карцыя», Дзмітрыем Радкевічам — вадзіцелем ТАА «Форэстэкс» і Уладзімірам Дабравольскім — слесарам канцэрна «Вомашбуд і партнёр». Пры знаёмстве «тройца» прадставілася камерсантамі-пачаткоўцамі. Не ведаў Дзмітрый Лявонцьеў, што ў навапечаных знаёмых, Бушуева і Дабравольскага, за плячыма засталіся непагашаныя судзімасці.

Неўзабаве Лявонцьеву ад новых знаёмых стала вядома, што ў Мінску, у ТАА «Эскапада», можна набыць па выгаднай цане імпартную радыёапаратуру і з не меншай выгадай рэалізаваць яе ў Санкт-Пецярбургу. Здзелка абяцала нядрэнны барыш. Аднак аднаго звяна ў ланцугу «грошы—тавар» у ТАА «Брыянт» не хапала. Чаго менавіта, здагадацца няцяжка — вядома ж, грошай. Камерцыйныя банкі, куды звярнуўся па крэдыт «свой чалавек», патрабавалі дакументы, якія гарантуюць яго вяртанне, а такіх гарантаў для ТАА «Брыянт» у Мінску не знайшлося.

«Дапамога» прыйшла ў асобе Канстанціна Бушуева, які паведаміў Лявонцьеву і Кавалеўскаму, што ў яго ёсць знаёмыя ўплывовыя асобы з Санкт-Пецярбурга, якія могуць паручыцца за ТАА «Брыянт» і прадаставіць гарантыйныя дакументы аднаго з банкаў Расіі для атрымання крэдыту ў Мінску.

Праз некалькі дзён Бушуеў пазнаёміў Лявонцьева з жыхарамі Санкт-Пецярбурга Канстанцінам Захаравым і Ігарам Андрэевым, а таксама двума хлопцамі — Маратам і Косцем. Апошняга Бушуеў і расійскія камерсанты чамусьці называлі не па імені, а па мянушцы — «Кот», але гэтай акалічнасці Д. Лявонцьеў не надаў значэння.

Прадстаўнікі з берагоў Нявы пачалі дзейнічаць. Лявонцьеву было прапанавана выехаць з імі ў Санкт-Пецярбург для абмеркавання абставін магчымага атрымання крэдыту і падрыхтоўкі неабходных гарантыйных дакументаў.

Неўзабаве Лявонцьеў разам з Захаравым і Андрэевым адправіўся ў Санкт-Пецярбург. Там Дзмітрый сустракаўся з дырэктарам нейкай камерцыйнай фірмы Мікалаем Таболкіным, які яму паведаміў, што гарантам для ТАА «Брыянт» можа выступіць філіял Ашчадбанка Расіі ў Санкт-Пецярбургу. Для атрымання крэдыту ТАА «Брыянт» будуць выдадзены неабходныя гарантыйныя пісьмы і іншыя дакументы. Была агаворана і сума мяркуемага крэдыту — 150.000 долараў ЗША.

Пасля прыезду ў Мінск Лявонцьеў паведаміў радасную вестку Кавалеўскаму: маўляў, гарантам яго фірмы выступае не хто-небудзь, а сам Ашчадбанк Расіі, таму ніякай цяганіны ў афармленні і атрыманні крэдыту быць не павінна. Сапраўднасць прадстаўленых у Санкт-Пецярбургу гарантыйнага пісьма і іншых дакументаў у абодвух прадпрымальнікаў сумненняў не выклікала. Тут жа была складзена схема маючай адбыцца здзелкі і размеркавання прыбытку. На крэдытныя грошы набываецца радыёапаратура ў ТАА «Эскапада», потым яна рэалізоўваецца ў Санкт-Пецярбургу па выгадных цэнах. Праз знаёмых К. Бушуева — К. Захарава і І. Андрэева атрымліваюць выручаныя ад рэалізацыі грошы, якімі неабходна кампенсаваць крэдыт і працэнтныя стаўкі. Атрыманы прыбытак меркавалася раздзяліць на тры часткі: паміж Д. Лявонцьевым і А. Кавалеўскім — з аднаго боку, прадстаўнікамі з Санкт-Пецярбурга — з другога, і Бушуевым, Радкевічам, Дабравольскім, а таксама Маратам і Канстанцінам па мянушцы «Кот» — з трэцяга.

Раздзяліўшы зараней шкуру яшчэ не забітага фінансавага мядзведзя, першы бок і не падазраваў, што так званы трэці бок выручаныя ад рэалізацыі радыёапаратуры грашовыя сродкі ні з кім дзяліць не збіраецца і назаўсёды забудзе дарогу ў той банк Мінска, які выдасць ім крэдыт.

Неўзабаве пакет дакументаў, неабходных для атрымання крэдыту, быў дастаўлены з Пецярбурга ў Мінск і ўручаны Лявонцьеву. Да гэтага часу А. Кавалеўскі, адчуўшы нешта нядобрае ў дзейнасці расійскіх і беларускіх «калег», палічыў за лепшае зусім адмовіцца ад удзелу ў маючай адбыцца камерцыйнай здзелцы. Ён пакінуў пасаду дырэктара ТАА «Брыянт», спаслаўшыся на сямейныя абставіны. Кіраванне фірмай па прапанове Бушуева перайшло да нейкага К. Фёдарава, у якога не было пашпарта, а асоба пацвярджалася толькі даведкай аб яго страце. І вось Лявонцьеў з атрыманымі з Санкт-Пецярбурга неабходнымі дакументамі і гарантыйнымі пісьмамі звярнуўся ў Беларускі народны банк для атрымання кансультацыі па магчымаму крэдыту. Там, уважліва вывучыўшы прадстаўленыя дакументы і зразумеўшы механізм мяркуемай здзелкі, у прадастаўленні крэдыту адмовілі, спаслаўшыся на адсутнасць фінансавай магчымасці. Адначасова Лявонцьеву, як «свайму чалавеку», далі зразумець, чым могуць скончыцца для яго падобныя здзелкі. А таму, сустрэўшыся з Бушуевым, Лявонцьеў паведаміў яму пра сваю адмову ў далейшым аказанні садзейнічання па атрыманню крэдыту для ТАА «Брыянт» і камерцыйнай здзелцы па набыццю радыёапаратуры.

Аднак такі паварот справы не спадабаўся прайдзісветам. Аднойчы, калі Лявонцьеў пад'ехаў да дома па вул. Каржанеўскага, дзе жылі яго бацькі, там яго ўжо чакалі на аўтамашынах «Мерседэс-Бенц» і «Аўдзі-100» Бушуеў і «братва». Прад'явіўшы Лявонцьеву прэтэнзіі з нагоды таго, што ён ад іх хаваецца і не хоча аказаць ім садзейнічанне ў атрыманні крэдыту, Бушуеў прымусіў таго сесці ў машыну. Аўтамабільны картэж накіраваўся ў гаражны кааператыў «Агароднік», размешчаны каля вёскі В. Сціклева Мінскага раёна. Яны спыніліся каля гаража № 244. Пасадзіўшы Лявонцьева ў крэсла, Бушуеў, Радкевіч і Дабравольскі пачалі патрабаваць ад яго выканання раней узятых абавязацельстваў па аказанню садзейнічання ў атрыманні крэдыту, а ў выпадку адмовы — кампенсаваць маральны ўрон Бушуеву і яго кампаньёнам, а таксама расійскім «калегам», якія быццам бы панеслі фінансавыя затраты па прадастаўленню дакументаў для атрымання крэдыту. Крымінальны іск, па іх разліках, — 37.000 долараў ЗША. Ну, а каб Лявонцьеў усё ўспрыняў не як жарт, пачалі збіваць яго: білі рукамі, нагамі, а потым гумавым малатком і металічнай лінейкай. «Калі адмовішся, то зробім з цябе шашлык», — паабяцалі рэкецiры. Бушуеў узяў электрычны фен з моцным цеплавым эфектам, які выкарыстоўваецца для сушкі фарбавальнага пакрыцця машын, уключыў яго ў сетку і прадэманстраваў на целе Лявонцьева, што яго чакае. Знаходзячыся ў безвыходнай для сябе сітуацыі, Лявонцьеў вымушаны быў згадзіцца з вымагальнікамі па аказанню далейшага садзейнічання ў атрыманні крэдыту.

Новы дырэктар ТАА «Брыянт» К. Фёдараў тут жа падаў заяву ў размешчаны ў Мінску Маскоўскі філіял Масбізнесбанка аб выдачы ТАА «Брыянт» крэдыту на суму 633.625.000 рублёў, а таксама перадаў пакет дакументаў ТАА «Брыянт», у якім знаходзіліся гарантыйныя пісьмы і іншыя дакументы Ашчадбанка Расіі ў Пецярбургу, атрыманыя ад Радкевіча.

Служба эканамічнай бяспекі Масбізнесбанка, праверыўшы надзейнасць мяркуемага крэдытаатрымальніка і сапраўднасць прад'яўленых ім гарантыйных пісьмаў, устанавіла, што гарант мяркуемай камерцыйнай здзелкі — Ашчадбанк Расіі не мае ўяўлення аб існаванні нейкага ТАА «Брыянт» у Мінску і таму ніякіх гарантыйных пісьмаў гэтай фірме не выдаваў. Перспектыва завалодаць па ліпавых дакументах 150.000 долараў ЗША растала як міраж у пустыні. На думку «пацярпеўшых» вінаваты ў гэтым быў толькі Лявонцьеў. Таму «кампаньёны» вырашылі патрабаваць з Лявонцьева, які «праваліў» аперацыю, тэрміновай уплаты па прад'яўленаму імі крымінальнаму іску.

Вечарам у кватэру да Лявонцьева зайшоў Марат з Санкт-Пецярбурга і патрабаваў прайсціся з ім. На вуліцы Лявонцьева чакалі Бушуеў, Радкевіч і Канстанцін з Пецярбурга. Запіхнуўшы Дзмітрыя ў машыну, яго даставілі ў кв. 1 дома 57 па вул. Я. Коласа, дзе іх чакаў Дабравольскі. І адразу пытанне рубам: «Калі заплаціш 37.000 долараў?» Пярэчанні Лявонцьева наконт таго, што банк не выдаў крэдыту, таму што прад'яўленыя дакументы былі фальшывыя, у разлік не прынялі. Вымагальнікі патрабавалі ад яго пазваніць усім сваім знаёмым і пазычыць указаную суму. Такіх багатых знаёмых у Лявонцьева не знайшлося. Раззлаваныя няўдачай, сябры кінулі Лявонцьева на падлогу і звязалі рукі за спінай тэлефонным шнурам. Зноў пачалі катаваць ахвяру. Яны збівалі яго, нават спрабавалі ўтапіць у ванне.

Разумеючы рэальную пагрозу свайму жыццю і не маючы больш сіл цярпець здзекі, Лявонцьеў паведаміў пра вымаганне сваім бацькам, а потым у праваахоўныя органы.

У выніку праведзенай упраўленнем па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю аперацыі вымагальнікі былі затрыманы. На жаль, «госці» з берагоў Нявы паспелі ўцячы.

Народны суд Маскоўскага раёна г. Мінска прыгаварыў Бушуева да 9 гадоў пазбаўлення свабоды. Дабравольскі будзе марыць пра тоўстыя пачкі долараў у месцах пазбаўлення волі 7 гадоў, а Радкевіч — 5.

У даход дзяржавы ў злачынцаў канфіскаваны два легкавыя аўтамабілі, якія выкарыстоўваліся імі пры ўчыненні злачынстваў, а таксама каштоўнасці і іншая маёмасць.

**Мікалай КРАСНЕЎСКІ, грамадскі карэспандэнт, Валянцін СТАШУК, начальнік аддзялення следчага ўпраўлення УУС Мінгарвыканкома.**

## ФІЛЬМАТЭКА

- **КАХАННЕ, ПРАДВЕСЦЕ СМУТКУ...**
- **КРЭОЛА — ВОСТРАЎ КАХАННЯ**
- **ТОЛЬКІ Ў ТАНЦАВАЛЬНАЙ ЗАЛЕ**
- **НАЧНЫ КЛУБ**

Новую мастацкую кінастужку **«Каханне, прадвесце смутку...»** перадаюць на суд гледачоў кінематаграфісты «Ленфільма». Аўтар сцэнарыя — Уладзімір Яромін, рэжысёр — Віктар Сяргееў.

Фільмы апошняга часу цяжка паддаюцца класіфікацыі па жанрах: столькі ў іх усяго накручана. У адрозненне ад сваіх таварышаў па прафесіі, рэжысёр Віктар Сяргееў заўсёды прытрымліваецца жанру меладрамы — «Кат», «Геній», «Дзіўныя мужчыны Сямёнавай Кацярыны», «Грэх».

Праўда, сюжэты гэтых карцін грунтуюцца на крымінальнай аснове, што робіць іх больш відовішчнымі.

«Каханне, прадвесце смутку...» — амаль класічная любоўная меладрама, пабудаваная на адносінах маладых сямейных пар — Марыі і Піліпа Мохавых, Аляксея і Ганны Юдзіных. А дакладней, на гісторыі «забароненага» кахання Піліпа да чужой жонкі, жонкі сябра — Ганны.

Маладыя і прыгожыя героі ў адну цудоўную ноч раптам разумеюць, што іх сямейнае шчасце прыдуманае і не вытрымала выпрабавання часам. Нават палкае каханне Ганны і Піліпа не прыносіць шчасця, таму што пакідае няшчаснымі Марыю і Аляксея. І, відаць, таму, нягледзячы на глыбокія пачуцці, не знаходзіць у сабе сілы пакінуць ні Ганна — мужа, ні Піліп — жонку. Развязка гісторыі трагічная, але, як гэта ні парадаксальна, светлая і нават аптымістычная...

Цікава праводзяць свае ролі ў фільме Ірына Мятліцкая, Андрэй Сакалоў, Вольга Драздова, Юрый Балабанаў.

■

У Італіі знята мастацкая кінастужка **«Крэола — востраў кахання».** Яе паставіў рэжысёр Антоніо Баніфацыо, сцэнарый напісаў Антоніо Відон.

Здавалася, нішто не пагражала моцнаму шлюбу прыгажуні-манекеншчыцы Крэолы і фатографа Эндзі. Але апошняму раптам стала не хапаць у іх адносінах былой вастрыні пачуццяў, і ён вырашае вярнуць яе з дапамогай рэўнасці, даўшы зразумець Крэоле, што нічога не меў бы супраць яе флірту. Можа, такі незвычайны сродак і сапраўды прывёў бы да жаданага выніку, калі б справа адбывалася не на востраве кахання. Эратычныя мясціны гэтага кавалачка зямлі ў трапічных шыротах Карыбскага мора мелі ў сабе нешта містычнае, што стымулюе эратычныя парывы.

У галоўных ролях заняты Дзіметра Хэмптан, Геа Ласіта, Джон Армстэд, Чынцыя Монтэале, Крысціна Гаравалья і інш.

■

Яшчэ ў 30-я гады І. Ільф і Я. Пятроў, пабываўшы ў ЗША, расказалі аб некім стандарце амерыканскіх музычных фільмаў, тады яшчэ невядомых нашым гледачам: гераіня (герой) з дзіўнай хуткасцю праходзяць шлях ад навічка, які робіць першыя крокі на сцэне, да зоркі першай велічыні. Пісьменнікі заўважалі, што пры гэтым зорка, як напачатку, так і ў фінале блішчыць майстэрствам у аднолькавай ступені. З таго часу на экранах ЗША і іншых краін пабывала нямала «папялушак» ад мастацтва. І вось яшчэ адзін варыянт — на гэты раз аўстралійскі. Мастацкую кінастужку **«Толькі ў танцавальнай зале»** зняў па свайму сцэнарыю, напісанаму ў садружнасці з Крэйгам Пірсам, рэжысёр Баз Лерман.

... Усяго тры тыдні заставалася да конкурсу бальных танцаў Пан-Пасіфік, калі ад маладога танцоўшчыка Скота Гасцінгса пайшла яго партнёрка Ліз. Што заставалася рабіць Скоту? Ён рызыкнуў і згадзіўся танцаваць з Фрэн, сціплай, нязграбнай з выгляду дзяўчынай у акулярах.

У фільме здымаліся Пол Меркурыо, Тара Морыс, Біл Ханцэр, Пэт Томсан, Гіо Гарыдэс, Пітэр Уітфорд, Бары Ота.

■

Увазе гледачоў прапануецца таксама амерыканскі псіхалагічны трылер **«Начны клуб»,** поўны самых загадкавых містычных і непрадказальных падзей. Яго пастаноўку ажыццявіў рэжысёр Майкл Кош, сцэнарый напісалі Дэбора Цілтан і Майкл Ко.

Пачалося ўсё з жадання маладой пары набыць закінутую фабрыку ў Лос-Анджэлесе для таго, каб пераабсталяваць яе ў начны клуб. У справу ўкладаюцца ўсе грошы. Аднак мясцовыя ўлады супраць гэтай ідэі і ўсяляк перашкаджаюць яе ажыццяўленню. Малады муж не вытрымлівае гэтай мітусні і вар'яцее. З гэтага моманту і пачынаецца асноўнае дзеянне фільма. Да звар'яцелага мужа з'яўляецца чароўная жанчына — жанчына яго мары. Што гэта — мроя ці рэальнасць? Няхай разбярэцца глядач.

Запамінальныя вобразы ствараюць у карціне Нікалас Хопе, Элізабет Кайтан, Эд Трота і інш.

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Рэгістрацыйны нумар 1.

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.
Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, сацыяльных праблем — 68-28-69, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Паставах — 22-400; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-31-98. ФАКС: 32-04-52, 68-28-77. E-mail: daily@zwyazda.belpak.minsk.by*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 94.665 Індэкс 63850.
Зак. № 7611.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12